*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 5 (113) ◈ 3 лютага 1993 г. ◈ Кошт — па дамоўленасці. (Па падпісцы — 80 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ



***26 СТУДЗЕНЯ СПОЎНІЛАСЯ ТРЫ ГАДЫ, ЯК БЫЎ ПРЫНЯТЫ ЗАКОН АБ МОВАХ.***

●

**25 СТУДЗЕНЯ Ў ДОМЕ ЛІТАРАТАРА АДБЫЛОСЯ ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ КАНСУЛЬТАТЫЎНАГА КАМІТЭТА ПАТРЫЯТЫЧНА-ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛ БЕЛАРУСІ**, на якім быў абмеркаваны ход выканання Закона аб мовах. Была заслухана справаздача арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы святкавання 75-ых угодак БНР. Старшыня БЗВ падпалкоўнік Мікола Статкевіч выступіў з заявай аб ініцыятыве БЗВ па стварэнні Славянскага Дэмакратычнага Форуму. Галоўная мэта будучай міжнароднай славянскай супольнасці — непрыманне ідэй панславізму, развіццё добрых зносін з неславянскімі народамі і краінамі.

●

**У ВІЛЬНІ АДНАВІЛА СВАЮ ДЗЕЙНАСЦЬ ЗАБАРОНЕНАЕ ПОЛЬСКІМІ ЎЛАДАМІ Ў 1937 ГОДЗЕ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ.** Старшынёй таварыства абрана Лілея Плыгаўка.

●

***У ШВЕЙЦАРСКІМ ГОРАДЗЕ ДАВОСЕ ПРАЦУЕ СУСВЕТНЫ ЭКАНАМІЧНЫ ФОРУМ.*** *На яго запрошана дэлегацыя РБ на чале са Станіславам Шушкевічам.*

●

**МАЛАДЗЕЧАНСКАЕ АДДЗЯЛЕННЕ ТБМ ІМЯ Ф. СКАРЫНЫ І МАЛАДЗЕЧАНСКІ ГАРВЫКАНКАМ ЗВЯРНУЛІСЯ** да жыхароў Беларусі з прапановай святкаваць апошнюю суботу лютага як Дзень мужнасці.

●

***У АДПАВЕДНАСЦІ З МІЖНАРОДНЫМ ДАГАВОРАМ ПА СКАРАЧЭННІ ЗВЫЧАЙНЫХ УЗБРАЕННЯЎ*** *у Барысаве пачаўся другі этап знішчэння ваеннай тэхнікі.*

●

***КАМІСІЯ «ВЯРТАННЕ» БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ,*** *якая займаецца пошукам нацыянальных каштоўнасцей і вяртаннем іх у Беларусь, выдала каталог дакументаў і архіўных матэрыялаў, што расшукваюцца.*

●

**СПОЎНІЛАСЯ 10 ГАДОЎ З ДНЯ ВЫХАДУ Ў СВЕТ ПЕРШАГА НУМАРА ЧАСОПІСА «МАСТАЦТВА».** Віншуем супрацоўнікаў часопіса з юбілеем і жадаем плёну на ніве Адраджэння.

●

***У СПАДЧЫНУ АД БЫЛОГА САЮЗА БЕЛАРУСЬ АТРЫМАЛА ТОЛЬКІ ТРЫ ФАРМАЦЭЎТЫЧНЫЯ ЗАВОДЫ.*** *Нядаўна пры Саўміне рэспублікі створаны Камітэт па фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прамысловасці, якому прададзена ў падпарадкаванне 12 заводаў. Чатыры з іх ужо выпускаюць фармацэўтычную прадукцыю.*

*А ў якой краіне жывём мы?* **Стар. 2.**

**Сорамна за такіх землякоў** **Стар. 3.**

**Гісторыя Айчыны — вайскоўцам** **Стар. 6.**

## Здань рэферэндуму блукае па СНД



У адным з нумароў газеты «Звязда» было змешчана інтэрв'ю Валянціна Жданко з народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым. На пытанне карэспандэнта: «Што, на Вашу думку, чакае Беларусь у бліжэйшыя месяцы, асабліва ў сувязі з апошнімі патрасеннямі ў Расіі?» — Васіль Уладзіміравіч адказаў:

— Для таго каб прадказаць наступныя падзеі ў Беларусі, не трэба быць вялікім прагназістам, дастаткова мець вочы, разумець і бачыць. Куды ж яшчэ магло прывесці краіну тое яе кіраўніцтва, якое ўлетку 1991 года, па сутнасці, толькі перайменавалася, памяняўшы крэсламі ў сценах тых самых будынкаў. Суверэнная рэспубліка Беларусь... Але каб колькі-небудзь паспяхова рэалізаваць ідэю суверэнітэту, трэба як мінімум палітычная воля кіраўніцтва, калі не ўсяе нацыі. У нас жа, як вядома, гэты суверэнітэт зваліўся, бы снег на галаву, і кіраўніцтва дагэтуль не ведае, што з ім рабіць. Тым болей, што рабіць што-небудзь становіцца ўсё цяжэй. Таму ўсё часцей наша наменклатура звяртае самотныя позіркі назад, у мінулае, дзе ёй было так утульна і ганарова, не трэба было ні пра што клапаціцца, усё вызначалася ў свяшчэнным цэнтры — Маскве. Баюся, што ў такіх варунках Беларусі пагражае вялае перараджэнне ў звыклы «суб'ект канфедэрацыі» або федэрацыі — на радасць наменклатуры пры поўнай абыякавасці знявераных мас.

Вядома, кіраўнічая наменклатура і дэпутацкі корпус, апроч іншага, бачаць у тым пэўнае выйсце, уцёкі ад крызісу і кашмарнае здані рэферэндуму, які хоць і не дазволены, але і цалкам не зняты з палітычнае абвесткі дня. Ды тое спадзяванне марнае: рэінтэграцыя іх не ўратуе, бо здань рэферэндуму маячыць не толькі на Беларусі, але і ў Расеі, на Украіне ды іншых дзяржавах былога СССР. Для многіх народаў Садружнасці стаў надта відавочным той факт, што сучасныя Саветы з гаранта дэмакратычных пераменаў, якім яны здаваліся яшчэ нядаўна, ператварыліся ў рэакцыйны тормаз бадай ці не на ўсіх узроўнях і патрабуюць неадкладнай замены шляхам датэрміновых выбараў на шматпартыйнай аснове.

Гаворачы пра лідэра БНФ, Васіль Быкаў сказаў, што Зянон Пазьняк прынцыповы вораг тых людзей, якія верна служылі (і служаць) імперскім мэтам былога Саюза, якія камуністычную дэмагогію зрабілі ўласнай прафесіяй, якія сем'ямі і пакаленнямі падзараблялі ў якасці «добраахвотных памочнікаў» КДБ. Але той, хто патрыёт сваёй бацькаўшчыны, каму баліць за трагічны лёс беларусаў, хто марыць пра Адраджэнне і росквіт нацыянальнай культуры, хто суверэнітэт Беларусі паважае як жыццёвую мэту, а не модную хохму, той, я думаю, мае магчымасць па-справядлівасці ацаніць асобу Пазьняка.

Як вядома, беларусы не распешчаны вялікай колькасцю нацыянальных герояў, болей славутыя рознага роду лакеямі — ад партыйна-камуністычных бонзаў да дзеячаў ВПК, генералаў ды касманаўтаў, што верна служылі мэтам вялікай імперыі

*(Працяг на с. 2.).*

***На кастрычнік 1992 года ў Менску зарэгістравана 31 рэлігійная арганізацыя. У горадзе дзейнічаюць 4 праваслаўныя царквы (яшчэ тры будуюцца), 5 каталіцкіх касцёлаў, 2 грэка-каталіцкія аўтаномныя абшчыны, 2 пратэстанцкія абшчыны, мусульманскае рэлігійнае таварыства і інш.***

***Рэдакцыя газеты Саюза палякаў Беларусі «Голас з-над Нёмна», што выдаецца ў Гародні, атрымала ад урада Рэспублікі Беларусь фінансавую дапамогу на выдавецкія мэты ў памеры 200 тысяч рублёў.***

***Скаўцкія арганізацыі існуюць у 160 краінах свету і ахопліваюць звыш 16 мільёнаў чалавек.***

 

*Рэха*

# Сорамна за такіх землякоў

Напісаць у рэдакцыю мяне прымусіў артыкул «Генерал Усхопчык некага баіцца?», змешчаны ў № 51 «Нашага слова» за мінулы год. Балюча было чытаць пра такіх беларусаў, як генерал Усхопчык. Гэта беларус толькі па пашпарце, які не толькі не ведае **роднай мовы**, але і выступае супраць нацыянальна свядомых афіцэраў. Ці спытаў хоць калі гэты пашпартны генерал-беларус у нашага народа: хоча народ мець такога свайго абаронцу? Прозвішча Усхопчыка, да слова, дагэтуль з горыччу ўспамінаюць у Літве. І не толькі там.

Навошта, урэшце, Беларусі, якая абвясціла сябе нейтральнай дзяржавай, гэткае велізарнае войска? Апроч таго, што асабовы склад войска трэба за кошт народнай кішэні ўтрымліваць, вайскоўцы непазбежна робяць значную, часта непапраўную экалагічную шкоду навакольнаму асяроддзю. Я, у прыватнасці, ведаю кавалак лесу на Астравеччыне, куды вайскоўцы прыязджалі са Смаргоні на летнія месяцы. Але ў выніку нават гэтага кароткатэрміновага знаходжання вайскоўцаў лес аказаўся фактычна знішчаным, значная тэрыторыя засталася засмечанай і забруджанай. А колькі такіх мясцін па ўсёй Беларусі?

Абыякавае стаўленне вялікай часткі вайскоўцаў да ўсяго беларускага выклікана ў першую чаргу тым, што яны па сённяшні дзень ані не адчуваюць сябе беларусамі, хоць, можа, паводле сваіх анкетных дадзеных імі лічацца. Акрамя генерала Усхопчыка і былога сакратара ЦК КП Літвы У. Шведа (зараз жыве ў Віцебску), Беларусь прыгрэла нямала іншых беларусаў, за якіх таксама часам робіцца сорамна. Я маю на ўвазе перш-наперш тысячы афіцэраў-адстаўнікоў, якія мройна спадзяюцца «возродить СССР».

**Леакадзія МІЛАШ.**

г. Вільня.

▪▪▪▪▪▪

*ВЫКАНАННЕ ЗАКОНА АБ МОВАХ — НА КАНТРОЛЬ ГРАМАДСКАСЦІ*

# Перапісаць лозунгі, выдаць, паспеюць

**Часта бываючы ў вёсках Наваградчыны, я заўважыў наступную акалічнасць. У гаспадарках з калектыўнай формай уласнасці (калгасы, саўгасы) вельмі марудна і цяжка ідзе працэс вяртання да ўсяго беларускага. Гэта заўважаецца нават у афармленні пераважнай большасці будынкаў праўленняў мясцовых калгасаў, якое па-ранейшаму застаецца рускамоўным. Праўда, у праўленнях зніклі ўжо напісаныя на чырвоным паркалі заклікі ў гонар КПСС, даўно не выпускаюцца раней абавязковыя насценныя газеты. У праўленні калгаса імя Леніна таксама нічога гэтага зараз няма. Але пустая рамка былой (рускамоўнай, вядома ж) насценнай газеты вісіць на сваім месцы. Ці то кіраўнікі гаспадаркі зусім забыліся на яе, ці, магчыма, у любы момант пасля каманды зверху гатовы аднавіць сваё колішняе камуністычна-прапагандысцкае выданне? На змену былым заклікам у праўленнях калгасаў цяпер прыйшлі новыя лозунгі. Але хто, скажыце, сёння хоць крышку паверыць у такія, напрыклад, словы на транспарантах: «Человек труда — в центре внимания»?**

**Знаёмячыся з комплексным планам развіцця Наваградскага раёна на сёлетні год, я ў адным з раздзелаў прачытаў, у прыватнасці, што ў кастрычніку райвыканкамам запланавана разгледзець ход выканання Закона Рэспублікі Беларусь аб адукацыі і Закона аб мовах у Нягневіцкім сельскім Савеце. Часу да кастрычніка дастаткова, калі мець на мэце толькі перапісванне лозунгаў, усёй астатняй нагляднай агітацыі ды складанне гладкіх справаздач для начальства. Але каму патрэбны падобныя папяровыя справаздачы, якіх за 70 гадоў татальнага безгаспадарання наладзілі процьму?**

**Не справаздачы патрэбны, а ўсведамленне кожнага кіраўніка, кожнага працаўніка, што менавіта ён — сапраўдны гаспадар на сваёй зямлі, што ён, нарэшце, валодае доляй (часткай) раней безымяннай уласнасці. Толькі тады ў людзей адродзіцца трывалая нацыянальная свядомасць. І патрэба ў справаздачах аб стане беларускасці, натуральна, знікне.**

**А. ПЯТРЫНА.**

г. Наваградак.

## *Ці стане «Веснік БДУ» нацыянальным выданнем?*

**Як вядома, часопіс «Веснік БДУ» разлічаны на навукоўцаў і на масавага чытача. З горыччу даводзіцца канстатаваць, што 1-ая і 2-ая серыі часопіса (прыродазнаўчая тэматыка) выдаюцца выключна на рускай мове, а ў нумарах наступных серый (грамадскія і філалагічныя навукі) на роднай мове змяшчаецца ўсяго каля 10 працэнтаў артыкулаў. Такім чынам, ігнаруючы беларускую мову, часопіс заняў антыдзяржаўную пазіцыю, скіраваную супраць нацыянальных інтарэсаў нашага народа.**

**На наш погляд, рэальны стан спраў у «Весніку» тлумачыцца «творчым» патэнцыялам кадраў часопіса, дзе ніводны супрацоўнік не мае вучонай ступені. Але самае дзіўнае, што дагэтуль узначальвае часопіс выпадковы чалавек — Рудзь В. Р. Беларусь багатая на таленавітых людзей, прыдатных плённа працаваць у беларускім друку, але, на жаль, для «Весніка БДУ» іх не знайшлося.**

**Лічым, што ў наш час, калі Беларусь стала незалежнай дзяржавай, калі пачалося сапраўднае адраджэнне нашай культуры і мовы, «Веснік БДУ» абавязкова павінен стаць нацыянальным выданнем.**

*Навукоўцы Белдзяржуніверсітэта (11 подпісаў).*

# Божае слова па-беларуску

**Ужо колькі разоў кіраўніцтва Рускай праваслаўнай царквы ў Беларусі публічна бажылася, што не мае магчымасці выдаваць рэлігійныя тэксты на беларускай мове: перакладчыкаў адпаведных не знайсці. Ды і слова Божае як быццам гучыць па-беларуску значна горш, чым па расійску.**

**Але вось разгортваем сціплую кніжачку, падрыхтаваную выдавецтвам «Божым шляхам» (1992 г.),— «Малебны канон найсвяцейшай Багародзіцы», чытаем, і душа радуецца! Гучыць, аказваецца, Божае слова і па-беларуску. Гучыць, калі рабіць пераклад так, як тое здзейсніў айцец Аляксандр Надсан. І «Выбраныя малітвы з Малой падарожнай кніжкі», таксама выпушчаныя выдавецтвам «Божым шляхам» (1992 г.), чытаюцца хораша. Ды і глядзіцца кніжка вельмі прыстойна, а заадно нагадвае пра старажытную культуру беларусаў: пры дапамозе камп'ютэра зроблены ілюстрацыі паводле гравюр у скарынаўскай «Малой падарожнай кніжцы». Для загалоўных літар паслужылі таксама ўзоры скарынаўскіх пражскіх ды віленскіх выданняў. І гэта таксама зроблена, дзякуючы айцу Аляксандру, і зноў жа ў Лондане. Дык там, далёка ад Беларусі, аказваецца, гэта здолелі зрабіць. А ў нас, галоўнае, знайсці прычыны, каб усё заставалася так, як было ў імперскія часы?**

**Напрыканцы падаём тэкст з «Выбраных малітваў з Малой падарожнай кніжкі».**

## *Малітва ў Тройцы адзінаму Богу ў нядзелю раніцай*

*Творча і Уладару ўсіх, Божа мой і Збавіцелю. Цябе ўзвялічваю, Табе малюся, Цябе ўслаўляю і да Цябе я, нягодны, прыпадаю; бо Ты ўчыніў мяне дастойным бачыць сённяшні дзень святога Твайго ўваскрасення, і не скарацеў бескарыснага жыцця майго дзеля грахоў маіх. Бачу, Госпадзе, невыказныя даброты Твае і пазнаю бязмежную міласэрнасць Тваю: бо Ты прывёў мяне з нябыту да быцця і ўпрыгожыў сваім вобразам; душою і розумам Ты зрабіў мяне роўным анёлам, целам і моваю ўзвысіў мяне над жывёламі. Да ўсяго гэтага Ты даў мне пазнаць Цябе, Бога ў Тройцы адзінага, і хрышчэннем вырваў мяне з моцы злога ворага; Ты даў мне навуку і закон збаўенны, і абяцаў уваскрасенне і жыццё вечнае. Над усё Ты захацеў сысці з пасада Твайго нябеснага дзеля нас, ступіць на зямлю і ва ўлонні Усячыстае Дзевы цела падобнае людскаму прыняць, трыццаць тры з паловаю гады на зямлі пражыць, усе нашы цяжкасці і боль на сабе дасведчыць, і самому памерці, каб нас ажывіць. Будучы пакладзеным у магілу, Ты нас ад пекла выбавіў. Уваскросшы з мёртвых, нам шлях да валадарства нябеснага адчыніў. Госпадзе Божа мой, што дам за ўсё, што Ты ўчыніў для мяне? Імя Тваё святое клічу і малюся Табе: дзеля бязмежнае любові Тваёй, якую Ты маеш да роду людскога; дзеля жыццядайнай магілы Тваёй і Твайго ўсяхвальнага трохдзённага ўваскрасення, прымі ад мяне гэтыя прачулыя малітвы і даруй мне адпушчэнне грахоў, здароўе цела, розуму прасвятленне, ад смутку вызваленне, ад недамаганняў выздараўленне, на зямлі сумленнае і працавітае жыццё, ад варожай няволі вызваленне, за грахі горкі жаль, а пасля смерці валадарства нябеснае на ўсе вякі. Амін.*



*Беларусазнаўства*

# ВЯРТАННЕ З НЕБЫЦЦЯ

Здавалася б, простая ісціна: выключна адказную ролю ў навучанні і выхаванні моладзі павінна адыгрываць нацыянальная школа, задачай якой з'яўляецца не проста перадача навучэнцам пэўнай сумы ведаў і навыкаў, але і фарміраванне ў іх пачуцця гонару за свой народ і яго культуру, выхаванне павažлівых адносін да яго традыцый і звычаяў, гістарычнай спадчыны, мовы.

На жаль, у папярэдні перыяд было зроблена нямала, каб знікла само паняцце нацыянальнай школы, выпала з сістэмы адукацыі. На працягу некалькіх дзесяцігоддзяў ажыццяўлялася нівеліроўка навучальнага працэсу, у якім не было месца нацыянальнай спецыфіцы ў галіне асветы.

Дарэчы, русіфікацыя адбілася ганебна на стане адукацыі таксама і іншых народаў былога СССР. Так, калі ў 1934—1937 гг. вучэбная літаратура выдавалася на 90 нацыянальных мовах, дык у 1988 г. ужо толькі на 39. Каментарыі да гэтых лічбаў наўрад ці патрэбны: можна проста сказаць, што ў аднайчаны перыяд у былым СССР была па сутнасці зліквідавана ні больш ні менш як 51 нацыянальная школа.

Што да падручнікаў для вышэйшых навучальных устаноў, дык у 1988 г. іх выданне на мовах народаў СССР склала па тыражах усяго 5,1% у адносінах да рускамоўных, пры гэтым літаратуры па тэхніцы і тэхнічных навуках на рускай мове было выдадзена ў 40 разоў больш, па электроніцы, аўтаматыцы і тэлемеханіцы — у 112, а па праблемах прамысловасці — у 918 разоў больш (!), чым на мовах усіх астатніх 127 народаў. Нават літаратура па вырошчванні бульбы, ў Беларусі і апрацоўцы бавоўны ва Узбекістане выдавалася выключна на расійскай мове. Вось якое «раўнапраўе» і моў і народаў... (Заўважым для параўнання, што ў 1925 г. доля выданняў на беларускай мове складала ў нашай рэспубліцы 68,5 %).

Прыводзім гэтыя дадзеныя дзеля таго, каб чытач сам зрабіў вывад, якая ж мова пацярпела ў папярэдні перыяд і зараз патрабуе пільнай увагі і аховы. Праціўнікі ўжывання дзяржаўнай мовы ў навучанні звычайна спасылаюцца на жаданне быццам бы саміх студэнтаў вучыцца па-руску. Пры гэтым нярэдка ў якасці пераканаўчых аргументаў прыводзяцца дадзеныя сацыялагічных апытанняў. Але ж ці могуць яны быць аб'ектыўнымі, калі праводзяцца тымі, хто сам не валодае гэтай мовай, а анкеты надрукаваны на расійскай мове, якую пераважная колькасць насельніцтва рэспублікі не прызнае роднай?

Пытанне далёка не рытарычнае, бо, як сведчаць дадзеныя шматлікіх даследаванняў па нацыянальных праблемах, праведзеных за мяжою, выбар мовы апытання ў такіх выпадках адыгрывае значную ролю і істотна ўплывае на адказы рэспандэнтаў. Як сведчаць вынікі даследаванняў, праведзеных па дадзеным пытанні ў 1991—1992 гг. сярод розных катэгорый насельніцтва Брэсцкай вобласці, усяго 49,8% рэспандэнтаў згодны з тым, што мова, на якой складзена анкета і праводзіцца апытанне, не аказвае ўплыву на змест адказаў па нацыянальных праблемах, 23,7% апытаных не змаглі пэўна вызначыць свой пункт гледжання, а 26,5% усіх рэспандэнтаў лічаць, што мова анкетавання аказвае непасрэдны ўплыў на адказы.

Вывады напрошваюцца самі па сабе. Відавочна, што правядзенне анкетаванняў па нацыянальных праблемах на чужой мове не можа не прыводзіць (нават пры «нейтральнай» устаноўцы інтэрв'юера, што бывае далёка не заўсёды) да памылковых вынікаў, якія не адпавядаюць сапраўднаму стану рэчаў і ні ў якім выпадку не павінны выкарыстоўвацца ў якасці паказальнікаў грамадскай думкі. На жаль, пераважна такімі «дадзенымі» запоўнены старонкі рэспубліканскага, у тым ліку беларускамоўнага, друку.

Вынікі ж сацыялагічных даследаванняў, праведзеных з улікам адпаведных патрабаванняў, выразна сведчаць аб тым, што адносіны студэнтаў да выкарыстання дзяржаўнай мовы ў навучальным працэсе пераважна станоўчыя (у адрозненне, заўважым, ад часткі рускамоўных выкладчыкаў, якія не жадаюць абцяжарваць сябе вывучэннем беларускай мовы). Разам з тым, як вынікае з даследаванняў, у многіх студэнтаў адсутнічаюць элементарныя веды аб Беларусі, яе гісторыі, культуры, прыродных умовах, вытворчым патэнцыяле. Недахопы ў галіне нацыянальнай адукацыі асабліва прыкметныя ў параўнанні з нашымі суседзямі: Літвой, Латвіяй, Украінай, Расіяй, Польшчай.

Дзе ж выхад? Як сведчыць практыка, увядзенне ў ВНУ выкладання беларускай мовы само па сабе

*(Працяг на с. 4).*

*Сказана*

Ідэя новай рубрыкі — служыць слову. **Беларускаму.** Гэта не азначае, што мы будзем надакучліва паўтараць адно і тое ж: наша мова багатая, прыгожая, яе трэба любіць, шанаваць і г.д. Хоць будуць, вядома, і такога зместу выказванні.

Задума крыху іншая: паказаць чытачу вартасці, якасці і магчымасці нашай мовы на прыкладах мастацкіх, публіцыстычных і навуковых тэкстаў — у яе жывым гучанні. Каб чытач убачыў, **як** можна сказаць і **што** можна выказаць, карыстаючыся фразеалогіяй, сінанімікай, гнуткасцю словазлучэнняў, вобразнасцю, афарыстычнасцю беларускай мовы.

**«Калі я чытаю добрую кнігу, не папракайце мяне ў гультайстве. Не хочаце прызнаць, што я працую, дык думайце, што я малюся — СЛОВУ».**

**Янка БРЫЛЬ.**



 

# Вучымся!

## Урок другі

*Вайскоўцам пра родную мову*

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце словы, звярніце ўвагу на выдзеленыя літары-сігналы:

бадзёрасць, знаёмства, агароджа, засяроджанасць, паходжанне, палігон, пералёт, перабудова, транспарцёр, узброены, паўднёвы, узнёслы, сталёвы, занепакоены, чацвёрты.

2. Прачытайце прыказкі і прымаўкі, захоўваючы правілы вымаўлення галосных і зычных. Скажыце, якой тэмай яны аб'яднаны?

Каханне і кашаль не схаваеш. Сэрцу не падкажаш. І галубок гукае, калі пары шукае. Дзе міла — сем вёрст не крыва. Чым абыякага, дык лепей ніякага. Лепш печану рэдзьку з'есці, чым з табой за адным сталом сесці. Не хвалі каня запрагаючы, а дзяўчыну — выбіраючы. Жонку выбірай не вачамі, а вушамі. Роўны роўнага шукае. Лепш любіць старога арла, чым маладую саву. Каб гады вярнуліся, то б і хлопцы гарнуліся. Быў час, калі дзяўчаты любілі і нас. Хіба чорт прыдумаў гэтыя залёты: ні ночу сну, ні днём работы.

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Прачытайце словы ў слупках, звярніце ўвагу на заданні да іх.

| Пішам і чытаем | Пішам | Чытаем |
|---|---|---|
| самастойна | ён *і*нспектар | ён *ы*нспектар |
| дабраякасна | нам *і*грае | нам *ы*грае |
| баяздольны | даць *І*вану | даць *І*вану |
| упаўнаважаны | наш *І*ван | наш *Ы*ван |
| малавядомы | сва*і*х | сва*й*х |
| пазаштатны | Міша *і* Вася | Міша *й* Вася |
| танкабудаўнічы | узялі *і* сказалі | узялі *й* сказалі |

Якія правілы чытання галосных Вы ведаеце?

2. Назавіце ўсе дні тыдня.

3. Пабудуйце маналагічнае выказванне, уключаючы словы *тыдзень* і *нядзеля*.

4. Адкажыце на пытанні, каб атрымаўся звязны тэкст.

— Вы вывучаеце беларускую мову?
— Ці вучылі мову раней?
— З чаго Вы пачалі?
— Вы карыстаецеся звязнымі тэкстамі? Якімі?
— Што дае Вам чытанне ўслых?
— Як Вы засвойваеце новыя словы?
— Ці ёсць поспехі?

## Тлумачэнне новай тэмы

### ПРАВІЛЫ ВЫМАЎЛЕННЯ СПАЛУЧЭННЯЎ ЗЫЧНЫХ

**Запомніце:**

з, с, дз, ц — свісцячыя
ж, ш, дж, ч — шыпячыя

У беларускай мове ёсць некалькі правіл вымаўлення спалучэнняў зычных.

1. Свісцячыя перад шыпячымі вымаўляюцца як шыпячыя:

| | пішам | чытаем |
|---|---|---|
| зж[жж]: | *з*жаць, *з* жыта | *ж*жаць, *ж* жыта |
| сш, зш [шш]: | *с*шытак, *з* шапкі | *ш*шытак, *ш* шапкі |
| здж [ждж]: | е*з*джу | е*ж*джу |
| сч, зч [шч]: | пя*с*чаны, *з* чыгункі | пя*ш*чаны, *ш* чыгункі |

2. Шыпячыя перад свісцячымі вымаўляюцца як свісцячыя:

| | пішам | чытаем |
|---|---|---|
| чц [цц]: | у рэч*ц*ы, боч*ц*ы | у рэ*цц*ы, бо*цц*ы |
| шс, жс [сс]: | стараеш*с*я, нясвіж*с*кі | стараес*с*я, нясві*сс*кі |

3. Запомніце правілы вымаўлення і такіх спалучэнняў:

| | пішам | чытаем |
|---|---|---|
| дч, тч [чч]: | наво*д*чык, лё*т*чык | наво*чч*ык, лё*чч*ык |
| дц, тц [цц]: | ло*д*цы, піло*т*цы | ло*цц*ы, піло*цц*ы |

чн — чытаецца нязменна: ру*чн*ік, сма*чн*ы, яе*чн*я.

4. Свісцячыя *з, с, дз, ц* перад мяккімі зычнымі вымаўляюцца мякка:

| пішам | чытаем |
|---|---|
| *зв*інець | *зьв*інець |
| *сн*ег | *сьн*ег |
| *дзв*еры | *дзьв*еры |
| *цв*ёрды | *цьв*ёрды |

**Выключэнне.**

Перад мяккімі *г, к, х* свісцячыя вымаўляюцца цвёрда: *з*гінаць, *с*кіраваць, *с*хіліцца.

**Замацаванне**

Прачытайце прыказкі і прымаўкі, захоўваючы правілы вымаўлення галосных, зычных і іх спалучэнняў.

Даганяючы, не нацалуе*шся*. Як за каханага ісці, то *сц*ежкі-дарожкі, а як за нялюбага, то дробненькія *сл*ёзкі. Ласка горы раз*б*івае. Калі любіш, то жаніся, а не любіш — ад*ч*апіся. Не па рэпа*чц*ы націнка, не па дзева*чц*ы хлапчынка. Гэтага *цв*ету па ўсяму *св*ету. Калі гора, нагаруе*шся*, калі добра, накрасуе*шся*.

## Узбагачэнне слоўнікавага запасу і развіццё гутарковай мовы

### ЧАС. НАЗВЫ МЕСЯЦАЎ

1. Прачытайце словы і запомніце тыя, з якімі Вы сустрэліся ўпершыню.

* * *

Время — час
часы — гадзіннік
час — гадзіна
минута — хвіліна
секунда — секунда
точно — дакладна
своевременно — своечасова
опаздывать — спазняцца
видеться — бачыцца
спешить — спяшацца
ожидать — чакаць
последнее время — апошнім часам
столетие — стагоддзе
эпоха — эпоха

* * *

Год — год
месяц — месяц
январь — студзень
февраль — люты
март — сакавік
апрель — красавік
май — май, травень
июнь — чэрвень
июль — ліпень
август — жнівень
сентябрь — верасень
октябрь — кастрычнік
ноябрь — лістапад
декабрь — снежань

2. Прачытайце дыялогі, запомніце выразы.

* * *

а) — Скажыце, калі ласка, колькі часу?

— Зараз адзінаццаць гадзін (палова адзінаццатай, дзесяць хвілін адзінаццатай, без дзесяці адзінаццаць).

— Ваш гадзіннік ідзе дакладна?

— Так. А Вы куды спяшаецеся?

— У нас а дванаццатай гадзіне (у дванаццаць гадзін) заняткі па беларускай мове.

— То мы маем час (яшчэ ёсць час). Я таксама запісаўся на курсы, пойдзем разам.

* * *

б) — Якімі дапаможнікамі Вы карыстаецеся пры вывучэнні беларускай мовы?

— У мяне ёсць «Русско-белорусский разговорник» А. Я. Міхневіча, выдадзены ў 1991 годзе.

— А я яго купіць не паспеў і карыстаюся самавучкам Анатоля Клышкі «Гаворым і чытаем па-беларуску».

— Як яго набыць?

— Самавучак надрукаваны ў дзесятым, адзінаццатым і дванаццатым нумарах часопіса «Маладосць» за 1990 год, і працяг быў у першым — адзінаццатым нумарах гэтага ж часопіса за 1991. Напісаны матэрыялы ў форме дыялогаў, тлумачэнняў і вельмі лёгка ўспрымаюцца.

— Я толькі прачытаў і занатаваў артыкулы пра напісанне дзелавых папер Алеся Каўруса. Яны таксама публікаваліся ў часопісе «Маладосць», у трэцім і чацвёртым нумарах за 1992 год.

3. Прачытайце артыкул Здзіслава Сіцько «Славянскі каляндар» і перакажыце яго.

Жыццё нашых прашчураў цалкам залежала ад навакольнага свету. Грозныя з'явы прыроды палохалі, сонца ўражвала сваім пастаянствам. Калі сонца ўзнімалася найвышэй і калі кацілася па небасхіле не грэючы, запальвалі вогнішчы і неслі ахвяры. І яно «разгаралася» зноў. І цяпер жыве гэты сонечны культ. Перакрыжаваныя рыскі, якія можна ўбачыць на знойдзеных археолагамі скульптурах, на посудзе, беларусы і ў наш час вышываюць на ручніках, адзенні, аздабляюць імі будынкі і прылады працы. Вучоныя лічаць роўнаканцовыя крыжы знакамі-сімваламі сонца.

Але нельга складанае жыццё прашчураў тлумачыць толькі страхам і зводзіць яго толькі да веравання і культаў. З'яўленне сонца, месцазнаходжанне яго на небе, што цяпер называюць сонцастаннем, выкарыстоўвалі для лічэння часу: дні, леты... Пасля звярнулі ўвагу на веснавое і восеньскае раўнадзенствы. Гэтыя чатыры станы сонца і склалі аснову старажытнага славянскага календара, падзялілі час ад «разгарання» сонца да яго «затухання» на чатыры роўныя часткі. «Гадавы» круг — дванаццаць рысак-малюнкаў — на адкапаным археолагамі абрадавым посудзе II—IV стагоддзяў нашай эры таксама мае чатыры малюнкі касых крыжоў, размешчаных сіметрычна. Касыя крыжы раздзяляюць і іншыя, больш складаныя малюнкі гэтага посуду. Дванаццаць розных малюнкаў на тым посудзе — першыя «назвы» месяцаў.

4. Прачытайце загадкі, запомніце іх і загадайце сваім знаёмым.

Хутка бяжыць — не дагоніш. (Час.)

Дванаццаць арлоў, пяцьдзесят дзве галкі знеслі адно яйка. (Год.)

Дванаццаць варон, трохі болей галіц, хто адгадае, той добры малец. (Месяцы і тыдні.)

Ляцеў сямідон, звіў гняздо, знёс сем яй, а ты кожнаму імя дай. (Тыдзень.)

Шэрае сукно лезе ў акно. (Світанне.)

Прыйшла кабыла, увесь свет пабудзіла. (Раніца.)

Прыйшла чорна маці, усіх паклала спаці. (Ноч.)

Брат сястру даганяе, а сястра ад брата ўцякае. (Дзень і ноч.).

*Культура мовы*

## НАПОЙ. Сваё ці пазычанае?

Апошнім часам некаторыя прыхільнікі моўнага застою імкнуцца заглушыць парасткі свежых слоў, што пранікаюць у пісьмовую літаратурную мову. Яны звыкліся з агульнавядомымі (былымі агульнасаюзнымі) стандартамі і абвяшчаюць тыя словы штучнымі наватворамі ці «запазычаннямі». Сюды трапіла і слова *напой*. Ці штучнае яно для беларускай мовы?

Як паказваюць назіранні **за народнай гутарковаю моваю і народным словаўтварэннем, *напой* — звычайнае слова, бяссуфікснае (нульсуфікснае)** утварэнне ад дзеяслова напойваць (напіцца). Як і *надой* (ад надойваць, надаіць), *перастой* (перастаяць, нерастойваць), *настой* (настойваць, настаяць), *набой* (набіць) і падобныя. (Падрабязней пра гэтакія ўтварэнні гл. у кнізе: П. У. Сцяцко. Беларускае народнае словаўтварэнне. Мн., 1977, с. 262—264).

Слова *напой* мае свае аналагі: *недапой* (недапіць), *перапой*, *запой* (запіць), *вадапой*.

Лексема *напой* — ніякі не наватвор і не чужынец у беларускай мове. Яго зафіксаваў Іван Насовіч у «Слоўніку беларускай мовы» (перавыдадзены — Мн., 1983, с. 314): «Напой. Всякое вообще питье. Квасу поставь для напою. Вода не вредный напой».

Змяшчае слова *напой* і «Русско-белорусский словарь» пад рэдакцыяй Якуба Коласа, Кандрата Крапівы і Пятра Глебкі (М., 1953, с. 285) як адпаведнік расійскага *напиток*.

Уласціва гэтае слова і іншым славянскім мовам — украінскай, польскай. Яго сінонім *напітак* з словаўтваральнага боку — штучнае для беларускай мовы слова з неўласцівым ёй суфіксам. Гэта пазычанне з расійскай мовы з словаўтваральнаю структурай: **напиток.**

З прааналізаванага відаць, што лексема *напой* — натуральнае, сваё слова, і яно ніяк не заслугоўвае таго, каб на яго нападаць, выганяць з літаратурнага ўжытку толькі таму, што некаму больш блізкае «агульнавядомае» напітак (напиток).

**Павел СЦЯЦКО.**




*Рубрыку вядзе*

*Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

Сакавітай маляўнічасцю вобразаў вылучаецца лірыка яшчэ аднаго выдатнага англійскага паэта-рамантыка пачатку XIX стагоддзя — Персі Бішы Шэлі (1792—1822).

Персі Бішы **ШЭЛІ**

## Словы да індыйскай мелодыі

Мне ў марах з'явілася ты,
Я прачнуўся і выйшаў у сад:
Анямелі ад шчасця вятры,
Поўны зор, зіхацеў далягляд.
Мне ў марах з'явілася ты,
І ўвесь свет для мяне — ты адна,
Сам не помню, калі і як
Падышоў да твайго акна.

Прытаіла дыханне ноч,
Заглядзеўшыся ў люстра ракі;
І цудоўна пахнуў чампак *,
І звінеў недзе спеў трапяткі:
Гэта боль вылівае свой
Кволае сэрца салаўя.
Я аддаў бы сваё жыццё
За цябе, дарагая мая.

Падымі, я ўпаў на траву,
Паміраю, самлеў, аслаб!
Ад дажджу пацалункаў тваіх
Мая радасць краскамі парасла б.
Халодная, бледная мая шчака,—
Ой, сэрца, грудзей не калаці!
Прытулі ж ты сэрца маё,
Светлай зоркаю з неба зляці!

## Азімандзіс Егіпецкі

На свеце многа дзіў, мой дарагі:
У егіпецкай пустыні між абломкаў
Даве высечаных з каменя нагі
Стаяць тарчма для памяці патомкаў;

І грозна ухмыляецца з-пад іх
Знявечаная галава балвана —
Вялічнасць, тупасць, сіла дзён былых
У помніку нялюдскім захавана.

А надпіс на падножжы так вяшчае:
«Я — Азімандзіс, над царамі цар,
Пазнай мяне — агорнешся адчаем».

Нічога больш, апроч каменнай кучы,
І, абмінуўшы біты царскі твар,
Спраўляе вольніцу пясок сыпучы.

*Пераклад з англійскай Юркі ГАЎРУКА.*

* Чампак — жоўтая магнолія.

*Лявон ЦІМОХІН,*

*старшыня Маладзечанскай рады ТБМ імя Ф. Скарыны*

## Сцяг памяці

*Пад шэрым небам хмары і мароз,*
*Заільдзянелы крыж па-над магілай.*
*Я сёння кветкі прашчуру прынёс,*
*І палажыў іх я пад крыж пахілы.*

*І чырвань руж лягла на белы снег,*
*Магіла прашчура мне стала сцягам.*
*У ёй і роднасць душ, і наш сыноўні грэх,*
*І гора, і любоў, і роспач, і адвага.*

*Застылі ў сумным мроіве палі,*
*Вакол бялеюцца палеткаў гоні.*
*А па прасторах роднае зямлі*
*Ізноў ляціць славутая Пагоня.*

*...І хоць навокал мора бед і слёз,*
*Хаўрусяць здраднікі з нячыстай сілай.*
*Я сёння кветкі прашчуру прынёс,*
*І стала сцягам памяці магіла.*

## 1986. Зыход

*Размазаў вецер сінь*
*па воблаках далёкіх,*
*І жураўліны клін*
*плыве удаль высока.*
*Ляціць-трымціць лісток*
*з бярозы пры дарозе.*
*Зматаў павук уток —*
*уцёк ад злых марозаў.*
*Мы выйшлі ў шлях, і сум*
*мне жоравам курлыча,*
*Ад роспачы і дум*
*замерла ў крыўдзе Прыпяць,*
*А журавы галосяць у палёце,*
*Ляцяць удаль,*
*трывожна свішчуць крылы.*
*Віруе енк на дойгай, сумнай ноце*
*Над той зямлёй,*
*дзе прашчураў магілы.*
*Сляза застыла на жаночым твары,*
*Лісцё магілу дзеда замяло.*
*З сваёй зямлі, Чарнобыля ахвяры,*
*Ідзём у прочкі,*
*кінуўшы жытло.*
*А журавы галосяць у палёце,*
*Ляцяць удаль,*
*трывожна свішчуць крылы.*

## Вандолы

*Усцяж дарогі дрэвы, як аблокі,*
*Усцяж дарогі гострая пазёмка.*
*У гэткі ж час сцюдзёны і далёкі*
*Мяне хрысцілі у царкве за вёскай.*
*Далі імя, ды не згадалі шчасця.*
*Ды не пазбавілі сірочай долі...*
*Мяне ў санях конь невядомай масці*
*Вёз па жыцці ад долі да нядолі.*
*Мяне студзіў мой месяц-бацька Люты*
*І сыпаў снег замест чаромх плялёстак,*
*Замест вясновых красак мяты-руты*
*Мне шэрань дрэў падаравў мой хросны,*
*І мо таму так хочацца у лета,*
*Дзе сонца і цяпло, дзе водар мёду,*
*Але ж шкада мне пералескаў гэтых.*
*Хто ж з імі будзе ў сцюжу, непагоду?*

♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦ *Чыталі?* ♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦♦

## Першы том — камяком? А як паглядзець...

«У беларускай літаратуры, якая налічвае амаль тысячу гадоў гісторыі, вялікія мастацкія здабыткі, прызнаныя сёння ва ўсім свеце. Яна прыцягвае да сябе ўсё большую колькасць чытачоў. Яе вывучэннем займаюцца многія даследчыкі — як савецкія, так і замежныя. Іх намаганні скіраваны на аб'ектыўнае ўзнаўленне ўсёй складанай гісторыі беларускай літаратуры, барацьбы ў ёй розных ідэйна-мастацкіх напрамкаў і плыняў, на ліквідацыю ў гэтай гісторыі шматлікіх прагалаў»,— так пачынаецца прадмова да 1-га тома біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі», які выйшаў у выдавецтве «Беларуская энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі накладам 5600 паасобнікаў. У слоўніку змешчана больш за 1100 артыкулаў з усебаковымі і сістэматызаванымі звесткамі пра жыццё і дзейнасць прадстаўнікоў беларускай літаратуры, якія пісалі на стараславянскай, беларускай, рускай, лацінскай, польскай і іншых мовах. У бібліяграфіях прадстаўлена звыш 600 тысяч розных публікацый.

Слоўнік «Беларускія пісьменнікі» быў падрыхтаваны да друку ў 1983—1987 гадах, і не дзіўна, што сёння рэдкалегія выдання прызнаецца: «Мы бачым усе хібы Слоўніка — залішнюю сацыялагізаванасць яго паасобных артыкулаў, спрошчанасць некаторых ацэнак, урэшце тое, што ў бібліяграфіі не ўключаны газетныя і часопісныя публікацыі пасля 1985 года». Да ўсяго, рэдкалегія звяртаецца да чытачоў з просьбай прысылаць свае заўвагі, каб зрабіць адпаведныя дапаўненні і ўдакладненні ў апошнім томе выдання, а іх плануецца выпусціць—шэсць.

## Аказваецца, можна без камуністычнай прапаганды

Напрыканцы 1992 года ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў серыі «Спадчына» накладам 5600 паасобнікаў выйшла кніга Максіма Гарэцкага «Гісторыя беларускае літаратуры». Кніга складаецца з раздзелаў: «Вусная народная паэзія», «Старая літаратура», «Новая літаратура», «Навейшая літаратура» і «Назваслоўе».

«Гісторыя беларускае літаратуры» Максіма Гарэцкага на працягу першага паслярэвалюцыйнага дзесяцігоддзя служыла адзіным падручнікам для сярэдняй і вышэйшай школы. І, калі меркаваць па зместу, то і сёння яна б змагла паспяхова замяніць некаторыя прасавецкія падручнікі па беларускай літаратуры. Як-ніяк у кнізе не сустрэнеш камуністычнай прапаганды. Даследаванне вылучаецца, як сцвярджаюць рэдактары кнігі, «тонкасцю назіранняў, уменнем разглядаць літаратурныя з'явы на шырокім гістарычным фоне вобразнасцю і даходлівасцю выкладу».

**В. А.**

*Вечарыны*

# «Рунь» добра ўзнялася

Слова «рунь» узнаўляе ў памяці зялёнае поле ў восеньскай шэрані і ў час веснавога абуджэння зямлі, калі сярод чорных праталін, нібы кінутая чыёйсьці шчодрай рукой стужка, цягнецца палоса азімых пасеваў. Гэта радасныя і незабыўныя малюнкі нашай прыроды.

На гэты раз рунь радавала нас зімовым вечарам. А было гэта на другі дзень Каляд, калі шматлікім наведвальнікам Дома літаратара пашчасціла сустрэцца з мастацкім калектывам «Рунь» менскага Тэхналагічнага інстытута (кіраўнікі Мікола Дудчанка і Ігар Міхалькоў).

У фае нас сустракалі з прыгожай зоркай калядоўшчыкі, з якімі былі традыцыйныя каза, мядзведзь. Выкананыя імі песні, гульні, прадстаўленні адных з нас, каму давялося калісьці ўбачыць гэта ў жыцці, вярнулі ў далёкае дзяцінства, другіх заставілі, мабыць, задумацца над тым, якое багацце мы згубілі ў хуткай хадзьбе да «светлых вышынь».

А калі свята перайшло ў залу і на сцэне, нібы пераліўы вясёлкі, змяняліся песні і танцы, танцы і песні, то так хацелася пусціцца ў скокі разам з артыстамі. На сцэне кіпела жыццё, жыла душа нашага народа. І гэта памкненне перадавалася ў гучных воплесках, якіх, думаю, даўно не чула зала Дома літаратара.

Жывуць нашы песні, нашы танцы, нашы традыцыі. І недарма зала на развітанне адзіным подыхам выгукнула: Жыве Беларусь!

Шчыры дзякуй табе, «Рунь», за радасць святочнага дня, за тое, што ты так добра ўзнялася на нашых родных палетках. Багатага табе ўраджаю ў аднаўленні нашых традыцый і звычаяў, якія заснулі на змярцвелай, знявечанай зямлі.

**Галіна ХАТКЕВІЧ.**

## Памяці рупліўца роднага слова

У Асінаўскай сярэдняй школе Чавускага раёна адбылася ўрачыстая вечарына, прысвечаная 80-годдзю вядомага земляка, беларускага паэта Андрэя Ушакова (1912—1942).

Пра творчы лёс Андрэя Фёдаравіча Ушакова расказвала намеснік дырэктара школы Зінаіда Шчарбакова. Успамінамі падзяліліся сваякі паэта — пляменніца Таццяна Ліскавец і ўнук Андрэй. Са сцэны гучалі таксама вершы паэта ў выкананні школьнікаў старэйшых класаў, была разгорнута выстаўка кніг беларускіх пісьменнікаў і паэтаў, якія нарадзіліся ў Чавускім раёне, адбыўся конкурс дзіцячага малюнка. Са сваімі новымі творамі прысутных пазнаёмілі тутэйшыя літаратары, сябры літаратурнага аб'яднання «Маладзік над Проняй» пры раённай газеце «Іскра» празаік Валянцін Крыжэвіч і паэт Мікола Салаўёў.

**М. КРАСАВІЦКІ.**

**г. Чавусы.**



## Тысячагадовая гісторыя Заслаўя ў жывапісе

Гісторыю тысячагадовага Заслаўя аднавіў у сваіх работах мастак Віктар Маркавец. У памяшканні камерцыйна-экспазіцыйнага цэнтра Рэспублікі Беларусь у Менску адкрылася выстава яго твораў. Вядомы майстра гістарычнага партрэта, пейзажа і нацюрморта звярнуўся на гэты раз да традыцыі глыбока народнага мастацтва маляваных дываноў.

Тэма работ, якія дэманструюцца на выставе, абрана невыпадкова. Віктар Маркавец — адзін з арганізатараў навуковага гісторыка-культурнага цэнтра «Гарыслава», нядаўна заснаванага ў Заслаўі. А новая выстава — першая акцыя «Гарыславы».

**На здымках:** на выставе Віктара Маркаўца; дыван мастака.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**
**Белінфарм.**




### *Законы жыцця жывёл*

Чалавек схільны паўставаць супраць прыроды і жыць не па тых законах, па якіх жывуць жывёлы, што кіруюцца інстынктам. Назіраючы за сельскагаспадарчымі жывёламі, што маюць агульныя рысы з дзікімі, паспрабуем вызначыць, якія з законаў іх жыцця можна дастасаваць і да жыцця чалавека. Уявіць такі прыклад: хворая жывёліна, як правіла, адмаўляецца ад ежы. У час галадання змяняецца біяхімічны састаў арганізма, што садзейнічае ачуньванню. Хворы ж чалавек ежу прымае — ці то з этычных меркаванняў, ці то па просьбе сваякоў, парушчаючы тым самым законы прыроды. Калі мы хварэем і хочам змяніць біяхімічны састаў свайго арганізма, каб хутчэй папpaвіцца, мы павінны навучыцца пераймаць паводзіны жывёл. Трэба памятаць, што чалавек можа доўга жыць за кошт назапашанага арганізмам. Піць трэба ў час хваробы кіслыя напіткі, найперш яблычны, вінаградны і журавінны сокі, якія ўтрымліваюць яблычную, вінную, лімонную, хінную, бензойную кіслоты.

Не ўсе ведаюць, што на працягу першых дваццаці гадоў жыцця ежа выкарыстоўваецца арганізмам у якасці будаўнічага матэрыялу. У дваццаціпяцігадовага чалавека ўжо сфарміраваўся шкілет, мускулатура, сэрца, крывяносна-сасудзістая, дыхальная і стрававальная сістэмы — ежа ў гэты час ідзе на іх падтрыманне. Да пяцідзесяці гадоў неабходна перабудаваць свой арганізм і харчавацца не дзеля задавальнення апетыту, а дзеля таго, каб задаволіць патрэбы арганізма ў пажыўных рэчывах. Тым самым мы аднаўляем, адбудоўваем свой арганізм.

А вось другі прыклад: сон пры расчыненых вокнах летам і зімою. Распаўсюджана думка, што такі сон умацоўвае здароўе. Але ці так гэта? Доктар Джарвіс правёў анкетаванне пяцісот пацыентаў, якія павінны былі адказаць на пытанне: «Ці спіце вы ўначы пры адчыненых вокнах?» Выявілася, што ў тых, хто спіць пры адчыненых вокнах, часта бывае насмарк, які не назіраецца ў тых, хто спіць пры зачыненых вокнах.

Пры вывучэнні прычын прастуды Джарвіс правёў эксперымент над групай падлеткаў, якія рыхтаваліся да паступлення ў каледж. Мэта эксперымента — пацвердзіць або канчаткова абвергнуць думку аб тым, што сон на свежым паветры спрыяе здароўю. Двое хлапчукоў пры правядзенні доследу адмовіліся спаць у палаце з адчыненымі вокнамі. Яны сказалі: «Калі мы спім уначы, мы стараемся пераймаць звычкі курыцы — яна спіць, хаваючы дзюбу ў пер'е». Гэта прымусіла Джарвіса задумацца і зрабіць выснову адносна другога закону жыцця жывёл, які можна дастасаваць да жыцця чалавека. Вось яго развагі. Курыца хавае дзюбу ў пер'е, каб у час сну дыхаць сагрэтым паветрам, бо паветра пры ўдыханні праходзіць праз пёркі і раўнамерна саграваецца. Такім жа чынам рэгулюе паветраабмен ліса, калі спіць на зямлі, закрыўшы пысу пушыстым хвастом, удыхаючы свежае цёплае паветра. Таксама дыхаюць і коні халодным днём у адкрытым полі. Яны стаяць, прыціснуўшыся галовамі адзін да аднаго. Паветра, якім яны дыхаюць, цыркулюе вакол галоў, і толькі ледзь-ледзь астуджваецца перад тым, як яго ўдыхаюць зноў. У ветранае надвор'е коні становяцца спінай да ветру.

У наш час, заўважае вучоны, людзей, якім ідзе на карысць сон пры адчыненых вокнах у зімовы марозны дзень, можна параўнаць з піхтай на схіле гары, што вытрымлівае суровыя ўмовы жыцця і працягвае расці. Такія людзі — выключэнне з правіла.

### *Пародыі*

***Шаноўныя рэдактары, заўважыўшы, што асноўным пастаўшчыком пародый у «Нашым слове» з'яўляецца Янусь Малец, мы з кумам Мацеем Перцам вырашылі: практыка даказвае, што манапалісты тармозяць развіццё прагрэсу не толькі ў эканоміцы. Па гэтай прычыне вырашылі саставіць канкурэнцыю. А паколькі ў дзіцячага паэта Міколы Чарняўскага 16 студзеня быў якраз юбілей, 50-годдзе (няхай будзе здаровенькі!), то мы з кумам і пераказалі ягоны верш.***

*Адась ЁРШ з кумам*

## Дзе ты, рыфма?

*Сарвайся ўначы жалудок*
*І глуха ў зямельку —*
*Торк!*

*Няўтульнаю,*
*Цвёрдай,*
*Халоднай*
*Здалася яму зямля.*

*Зірнуў угару ён журботна:*
*«Напэўна загіну я!»*
Мікола ЧАРНЯЎСКІ.

Не першы я склаў радок,
Спісаў я паперы стос.
Як той у зямлю жалудок,
Ў паэзію моцна ўрос.

Пішу для малых дзяцей.
Пісаў бы яшчэ бараздзей.
Ды з рыфмай падчас —
труба...
Шукаю — і пот з ілба.

Мелодыі сэрца прагне.
І што мне рабіць з сабой?
На белыя вершы цягне,
Ды ў рытме бывае збой.

Пегас смаляне азадкам
(Ёсць вершы, аб гэтым
сведкі —
Што-небудзь у іх нягладка),
Ды я не заплачу, дзеткі.

Схаплю я за хвост надзею...
І ўсе пяцьдзесят адначу...
Злаўлю Адася з Мацеем —
І тут жа за ўсё аддзячу!

## Увага!

**Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускі вучэбна-метадычны цэнтр, Менскі радыётэхнічны інстытут і ТБМ імя Ф. Скарыны наладжваюць навукова-метадычную канферэнцыю «Актуальныя праблемы беларускамоўнага выкладання тэхнічных і прыродазнаўчых дысцыплін у ВНУ».**

**Канферэнцыя абудзецца 4—5 мая 1993 года ў Менскім радыётэхнічным інстытуце.**

**Працу канферэнцыі мяркуецца арганізаваць па секцыях адпаведна тэматыцы паведамленняў:**
1. **Матэматыка і фізіка.**
2. **Тэхнічныя дысцыпліны.**
3. **Хімія, біялогія. Медыцына.**
4. **Геаграфія, эканоміка.**

**Тэзісы паведамленняў аб'ёмам 1-2 машынапісныя старонкі ў 2 экземплярах просьба адасласць у Аргкамітэт да 25 лютага на адрас: 220600, г. Менск, вул. Б. Хмяльніцкага, 3. Беларускі вучэбна-метадычны цэнтр, Лабараторыя вышэйшай адукацыі.**

**Даведкі наконт афармлення тэзісаў і па іншых пытаннях — па менсікм тэлефоне 39-89-88, 66-98-69.**

## *НА ХВАЛЯХ БТ*

**3 ЛЮТАГА**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.00. Творчае маладзёжнае аб'яднанне «Крок».**
**21.00. Панарама.**
**22.25. НІКа.**
**22.40. На сесіі Вярхоўнага Савета РБ.**

**4 ЛЮТАГА**

**16.15. Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. Х клас.**
**18.00. Тэлевізійны дакументальны фільм «Данчык».**
**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.55. Роднае слова. Тэлечасопіс.**
**20.25. Тыдзень беларускага ўрада.**
**22.40. На сесіі Вярхоўнага Савета РБ.**

**5 ЛЮТАГА**

**18.30. Навіны Бі-бі-сі.**
**19.10. Гаворым па-беларуску.**
**22.15. На сесіі Вярхоўнага Савета РБ.**

**6 ЛЮТАГА**

**10.00. Паказвае Віцебск. Літаратурна-мастацкая праграма.**
**14.30. Скарбы беларускай гісторыі.**

**7 ЛЮТАГА**

**12.45. Сага аб Беларусі. Л. Шчамялёў.**

Рэдактар Эрнэст Ялугін.
Сябры рэдакцыйнай калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шавыркін.
Адказны сакратар Віктар Шніп.

Заснавальнік: ТБМ імя Ф. Скарыны.
Наш адрас: 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.
Індэкс 63865.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.
Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.
Наклад 8435 паасобнікаў.
Зак. 257.

Падпісана ў друк 1.02.1993 г. у 15 гадзін.
МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
220079, г. Менск, 1-ы Загарадны завулак, 3